# Рабочы Бабруйска

№ 15 (56) 3 – 9 мая 2001г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213807, Бабруйск, а/с 25. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.

ДАТА

# Бабруйск. Хвіліна памяці ў дзень смутку

*Прайшло пятнаццаць год з таго дня, калі мы ўпершыню асэнсавалі слова "радыяцыя".*

Дагэтуль йод, цэзій, стронцый успрымаліся намі не інакш як элементы табліцы Мендзялеева, а пры слове "кюры" мы ўзгадвалі вядомую французскую сям'ю фізікаў. Дзень 26 красавіка 1986 года падзяліў наша жыццё на *да* і *пасля* аварыі. Трагедыі звычайна яднаюць нацыю: агульная бяда прымушае людзей разам ратаваць сябе і сваіх дзяцей.

У дзяцінстве я чуў адну гісторыю ў розных інтэрпрэтацыях аб жураўліках, якіх рабіла хворая дзяўчынка з японскага горада Хірасіма. Тады да аварыі я нават і не мог падумаць, што нашы беларускія дзеці будуць у анкалагічных дыспансерах рабіць папяровых жураўлікаў і спадзявацца на цуд.

Ці з'яднала нас, беларусаў, чарнобыльская бяда? Не магу адказваць за ўсіх, але тыя бабруйчане, якія 26 красавіка 2001 года прыйшлі да Дома сувязі ў 17.30, дзе ўтварылі жывы ланцуг, напэўна ўсвядомілі сябе нацыяй і адчулі сваю адказнасць за лёс Беларусі. "Гадзіна памяці ў дзень смутку"– менавіта так называлася акцыя, наладжаная дэмакратычнымі сіламі нашага горада і прысвечаная пятнаццатай гадавіне аварыі на ЧАЭС. Нягледзячы на дробны дождж і вецер, удзельнікі акцыі трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі – сымбалі новай Беларусі – і запаленыя свечкі – сымбалі памяці аб тых, хто пацярпеў у выніку самай жахлівай катастрофы XX стагоддзя.


Фота: Dm/CASIO


Фота: Dm/CASIO

Прыемна, што ўшанаванне памяці пацярпелых ад чарнобыльскай навалы не мела выразнага палітычнага падтэксту: яно і так зразумела, хто вінаваты і што рабіць. Відавочна і тое, што сённяшняе кіраўніцтва краіны не здольна вырашыць праблемы, звязаныя з Чарнобылем.

Падчас акцыі не было прамоваў і заклікаў, як не было папулістаў і артыстаў рознага кшталту. Як заўсёды, праігнаравалі дадзенае мерапрыемства прадстаўнікі мясцовай "вертыкалі". Напэўна, сорамна глядзець людзям у вочы.

Супрацоўнікі міліцыі, нягледзячы на тое, што акцыя была несанкцыянаваная, паабяцалі ўдзельнікам чарнобыльскага ланцуга, што затрымаюць у гэты святы для кожнага грамадзяніна Беларусі дзень не будзе.

Акцыя ўшанавання памяці пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС ладзіцца ў нашым горадзе ўжо ў другі раз. Дай Бог, каб чарнобыльскі ланцуг стаў традыцыйным.

**Алесь ЧЫГІР.**

МЕДИЦИНА

# Грустная статистика

***Вчера, основательно "покопавшись" в содержимом компьютера, я набрёл на очень интересные медицинские факты. Правда, к некоторым данным доступ был закрыт, однако кое-какую информацию мне удалось узнать. Это был своеобразный архив, в котором находилось несколько очень невеселых цифр. Вот они:***

**Заболевания щитовидной железы:**

| год | 1996 | 1997 | 1998 | 1999 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 264 | 371 | 406 | 271 | 333 |
| 2 | 2269 | 2688 | 3099 | 3395 | 3699 |

**Заболевания крови:**

| год | 1996 | 1997 | 1998 | 1999 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 219 | 135 | 37 | 59 | 50 |
| 2 | 607 | 305 | 407 | 328 | 316 |

Это, как вы, наверное, уже догадались, количество больных. Причём цифры в строке 1 означают число пациентов, которым этот диагноз был установлен впервые; в строке 2 – состоящие под наблюдением диспансера на конец отчётного периода. И это – не Бобруйский район и даже не весь город, а всего лишь отдельно взятая поликлиника №1!.. А таких поликлиник в городе не одна-две, а несколько.

... До меня уже доносятся недовольные голоса: куда, мол, медицина смотрит? Отвечу вопросом на вопрос: а что бы вы сделали, не будь у вас в кармане ни рубля, не говоря уже о другой, более тяжеловесной валюте? Ага, молчите?

Такая же ситуация с медициной – средств на дорогие лекарства и необходимое оборудование зачастую просто нет. Финансов не хватает даже на такие, казалось бы, простые вещи как бинты и марля. А ведь людям, страдающим заболеваниями крови и щитовидной железы, нужны более дорогостоящие препараты.

На этом фоне делаются попытки реформировать медицину, т.е. сделать в итоге - "одним концом по барину, другим по мужику"? Я считаю, что это не выход. А посему – не удивляйтесь, видя такими же большими цифры заболеваний. Помните: каждая цифра – это чьи-то судьбы.

**Денис ОТШЕЛЬНИКОВ.**

*P.S. Но всё-таки – верьте в лучшее.*

НАВІНЫ

## 100$ кожнаму!

А.Г. загадаў, каб заробкі ўжо ў чэрвені-ліпені былі не ніжэй за 100$. Гарадская Бабруйская асацыяцыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў разгледзела пытанне аб падвышэнні заробкаў. Пачутае каб і пабачыць, але лепш патрымаць у руце.

## Бульдозером по истории?

Можно приветствовать разумное начинание городских властей о передачи недостроенных, пустующих и разваливающихся зданий в руки новых владельцев, способных вдохнуть в них жизнь, но настораживает отношение к сохранению исторического и культурного наследия Бобруйска. Так уже снесено в прошлом году здание во дворе магазина "Космос" возле рынка.

## Потерянный день

Для создания массовости на первомайском митинге Управление образования Бобруйского горисполкома довело до сведения администраций школ, расположенных в центральной части города, о необходимости направления на данную акцию не менее 30-ти учащихся старших классов от каждой школы.

Если учесть, что это мероприятие имеет общегородской статус и подобные разнарядки существуют для предприятий и организаций, приходится только догадываться, сколько бобруйчан не сможет поработать на своих дачных участках.

## Ударники кап-соцтруда

На заводе ТДиА введено новое-старое мероприятие по повышению производительности труда – трудовое соревнование. Так как это касается рабочих, то для отдела маркетинга предлагаем вызвать на соцсоревнование коллег из американской фирмы "Бизон".

## Сезон охоты открыт

Как стало известно из достоверных источников, в целях повышения активности сотрудников милиции в "отлове" ЗУБРОВ введенно премирование – 100 тысяч рублей. Немного обидно за ЗУБРОВ, так как "конокрадов", разбирающих на цветные металлы памятник около минских кладбищ, оценили в 500 тысяч рублей.

## Баня №2

Спешим обрадовать любителей пара. Ремонт печи в малом отделении бани №2 будет произведен в течение ближайшего месяца. Благодаря чему мы и сможем пережить традиционные летние отключения горячей воды.

## Посади дерево!

27-ого апреля "Молодые социал-демократы" провели акцию по озеленению 6-ого микрорайона города. Было высажено 10 саженцев деревьев. Таким образом подростки решили облагородить свой район.

**Соб. инф.**

## Итоги конкурса

Редакция газеты "Рабочы Бабруйска" прекращает свой прошлогодний конкурс. Как стало известно из слов Г. Виноградова, начальника управления капитального строительства, победителем окажется здание банка. Терапевтический корпус городской больницы и библиотека имени А.С. Пушкина могут стать долгостроем. В прошлом году, когда начинался конкурс, все-таки была надежда, что государственные приоритеты изменились, а то по количеству новых зданий банков мы "впереди планеты всей".

Еще мы уверены, что новое здание отдела «Охрана» Ленинского района по улице Гоголя будет возведено в самые кратчайшие сроки.


**Напоминаем, на снимках: банк, больница, библиотека.**





СПОРТ

# У паўкроку ад паўфінала

20 красавіка ў Гомелі бабруйская "Белшына" правяла першую сустрэчу 1/4 фінала Кубка краіны па футболе. Гульня з мясцовым ФК скончылася баявой нічыёй – 2:2. Двойчы, на 27 і 42 хвілінах, гаспадары выходзілі наперад. Але спачатку Седнеў са штрафнога (на 39 хвіліне), а потым вышэйшы на замену Балашоў (на 75 хвіліне) лік аднаўлялі. Далейшыя высілкі каманд поспеху не прынеслі. Гульня ў адказ адбудзецца, калі нумар нашай газеты ўжо выйдзе з друку. Будзем спадзявацца, што "Белшына" пройдзе гомельскі бар'ер.

**Віктар КАЧАН.**



«Гомель»–«Белшына», 1/4 Кубка, 20.04.2001г.

ВЫСТАВКА

# Бобруйск – Евпатория с совковым сервисом

Ровно 5 дней – с 25 по 29 апреля – Выставочная галерея по улице Социалистической напоминала филиал Медной горы из сказок П. Бажова. Малахиты, змеевики, лунные камни и тигровые глаза, опалы и агаты – то, о чём вы читали в детстве, можно было воочию увидеть и воручию потрогать на минералогической выставке-продаже "Мир самоцветов". Медной горы хозяину – Владимиру Жданюку из Гродно – удалось собрать под одной крышей 20 разных коллекций. Были представлены Киев, Спб.-Петербург, Минск, Феодосия, Харьков, Могилёв... Поэтому корреспонденты "РБ" использовали выставку не только как возможность полюбоваться каменным царством, но и поговорить за жизнь с гостями города.

**Минчане Володя и Сергей**, вежливо поедая тушёнку, сообщили, что Бобруйск – круче Мозыря и чем-то напоминает Евпаторию. **Юля из Петербурга** увидела в Бобруйске русскую беду – плохие дороги. Авторитетный **киевлянин Женя** отметил уютную обшарпанность Бобруйска, дешёвый общепит и небогатый ассортимент товаров в наших торговых точках. **Марина из Феодосии** посетовала на дорогое такси и совковый сервис в магазинах. Если верить Марине, 95% бобруйских продавщиц не нашли бы себе занятия на Украине – работают по старинке. Вообще, цифра – на 5 лет – и фраза – назад в СССР – то и дело слышались из уст бывших соотечественников.

После Бобруйска Владимир Жданюк перевезёт коллекционеров в Борисов-Лиду-Гродно. Возможно, там дела пойдут лучше: ведь из 500 запланированных бобруйчан в первый день на выставку пришло лишь 200.

**За бобруйский сервис краспели Дапута ЧИГИРЬ и Дмитрий ДОВГАЛЬ.**

ВЫПАДАК

# У ашчаднай касе

На гэтым тыдні плаціў за камунальныя паслугі ў касе, што каля Палацу шлюбаў. Мне давялося стаць сведкам вось якой справы: каля вакенца з шыльдаю "Коммунальные платежи" знаходзіцца вакенца з шыльдаю "Абмен валюты". Ля другога вакенца ідзе спрэчка паміж тыповым прыхільнікам А.Г. і касіркай. Гнеў кліента выклікала адсутнасць ільготаў і скідак пры набыцці валюты для пенсіянераў і інвалідаў.

На пытанне: "Навошта табе, стары, варожыя грошы?" – дзядуля адказаў лаянкай, узгадаўшы Клінтана, Моніку і іншых. Але даляры набыў.

Таму А.Г. па тэлевізары – гэта для душы і сэрца, а даляры – для страўніка і для жыцця.

**І. МЯСЦОВЫ.**

ЖЫЦЦЁ

# Набажэнства ў касцёле

26 красавіка ў пятнаццатую гадавіну Чарнобыльскай трагедыі ў бабруйскім гарадскім касцёле адбылося набажэнства па ахвярах Чарнобыля. Нягледзячы на малую колькасць прысутных, ксёндз Аляксандр адслужыў імшу па ўсіх канонах.

Тыя людзі, што прысутнічалі на імшы, выходзілі пасля набажэнства вельмі натхнёныя.

**Алёна АНДРЭЕВА.**

КРИМИНАЛ

# Смертельная любовь

***Странная и страшная история, в которой герои, словно бы переходя из одной драмы в другую, кипят неутолимыми страстями, вершат над собой и другими скорый суд, и сами же выносят кровавый приговор. После случившегося в Тарасовке односельчане называли эту семейную пару Ромео и Джульетта. Только это, наверное, не совсем правильно. Разве можно представить Ромео, который целится в свою возлюбленную из карабина? Скорее уж – Отелло и Джульетта...***

## Вот и встретились два одиночества

Эдуард Джафаров в своем солнечном Баку был не последним человеком. Главный инженер на одном из крупных предприятий, депутат облсовета. Было за что уважать. Однако в неблагословенные послеперестроечные времена отношение быстро переменилось.

Легко ли жить на чужбине, да еще в чужом доме? Джафарову, привыкшему если не к роскоши, то уж во всяком случае, к изобилию, это было даже очень нелегко. Ни его диплом, ни депутатский мандат здесь, на фоне безработицы, особого значения не имели. Потому и с жизнью на широкую ногу, и даже с работой – дело, как говорят, швах. Не та жизнь пошла, что бывало, совсем не та...

Александра Полякова прожила в Тарасовке почти всю свою жизнь. Здесь родилась, выросла. Однако никто, даже из столичных жителей, не назвал бы ее "деревней". Русоволосая красавица уже в школьные годы притягивала жадные мужские взгляды, как магнит, а уж когда повзрослела – и вовсе от женихов отбою не стало. Чему удивляться: умница, руки золотые, а уж внешность – "таких лишь слепой не заметит"... Правда, замуж вышла рановато, но и не по-глупому: все в семье складывалось, как надо. С мужем жили душа в душу, дочка родилась, Аленка – всей статью в мать. Александра, однако, сумела, при всей семейной занятости, получить образование и даже выбиться в начальство. Работала, командовала отделением ВОХР на электроподстанции – между прочим, одной из ведущих в республике. В ее подчинении было 6 вооруженных охранников. Такими ребятами способна командовать далеко не любая женщина. А она вот – могла. И на работе все успевала, и дома – тоже. Казалось, жить бы да жить. Однако... Аленке не исполнилось еще и 5-ти лет, когда Александра осталась вдовой.

С тех пор и жила вместе с дочерью. Дом да работа — вот и все "развлечения". Нет, оставшись вдовой, она не стала менее привлекательной для окружающих мужчин. Тем более: женщина свободная, почему бы за ней не приударить? Да видно, никто не приходился по сердцу горделивой красавице. По крайней мере, настолько, чтобы вступить в законный брак.

Вот и встретились на вечеринке у друзей два одиноких человека – Эдуард и Александра.

...Он обратил на нее внимание сразу же, как только вошла. С истинно кавказской галантностью подошел (чуть ли не подбежал), чтобы помочь ей снять легкую дорогую дубленку, сразу отметив про себя: хоть и не юная девочка, но есть на что посмотреть. Умения говорить комплименты Эдуарду было не занимать...

Наступал Новый, 1997 год.

## Ах, какая женщина!

Три года совместной жизни пролетели быстро. Эдуард съездил в Баку, продал там свою квартиру, так что материальная база для идиллии была. Стали жить вместе в доме Александры. Аленка, правда, дочерних чувств к отчиму не питала, скорее, терпела новоиспеченного отца ради счастья матери. Но не вмешивалась: все-таки сама уже взрослая, понимала, что не век же Александре жить одной.

Эдуард устроился охранником на электроподстанцию. Работа нетяжелая, да и зарплата по деревенским меркам солидная? Да вот, оказалось, и ничего хорошего. С этого, собственно, и начались конфликты в семье. Не очень-то нравилось самолюбивому кавказскому горцу работать под начальством у женщины. К тому же – у собственной жены, пусть даже и гражданской.

Еще одна проблема — несмотря на то, что "бабий век - сорок лет", Александра этой пословице никак не соответствовала. Что ж, бывают такие женщины в белорусских селеньях, у которых годы красоты не отнимают. И это замечал, конечно, не один только Джафаров. Другие мужчины тоже замечали. А все эти жадные взгляды и комплименты были для ревнивой южной натуры Эдуарда – как ножом по сердцу.

Александра за годы одиночества привыкла жить открыто: и сама частенько ходила в гости, и к себе людей приглашала. Танцы, шутки – иногда довольно двусмысленные, да ведь люди-то свои, никто не обижался. А тут – потанцуй с кем-нибудь, если в таких случаях Эдик садится поближе и сверкает на ее партнера бешеными глазами. А если покажется, что тот вел себя слишком вольно, так может и пригласить куда-нибудь "разобраться". Какое уж веселье...

В общем, праздники и вечеринки прекратились. С работы из-под женского руководства Эдуард уволился. Пошел в электромонтеры, хоть и серьезно потерял при этом в деньгах. Да разве ревность успокоишь по способу: чего глаза не видят – о том сердце не болит? Джафарову давно казалось, что один из подчиненных его жены, Генка Рудик, смотрит на нее както не так. Не так, как положено смотреть на начальницу. И ведь сам понимал: навряд ли между ними что-то было. Да только ревность – чувство безрассудное, его логикой не успокоишь.

Через год-полтора после начала совместной жизни у наших молодоженов начались не серые будни, а напротив, жуткие страсти-мордасти. Вначале Александра пыталась это как-то сглаживать: поменьше бывать в компаниях, не разговаривать особо приветливо с кем-либо из соседей мужского пола. Да разве этим ревнивца успокоишь? Скорее, напротив. Как-то раз Джафаров увидел, что Александра, встретив Генку Рудика на улице, с ним едва поздоровалась. И вскипел:

– Раньше вы могли полчаса о чем-то болтать, если увидитесь! А теперь – едва кивнула и пошла. И он тоже в сторону смотрит. Видно, вам обоим есть, что скрывать! Что между вами было, признавайся!

Согласитесь, на такое обвинение можно только рассмеяться. Что Александра и сделала. Вот тогда-то Джафаров впервые ее ударил.

Потом он просил прощения, клялся, что такого больше никогда не повторится. Даже заплакал. Но этот случай, конечно, оказался не последним. Вскоре снова нашелся повод для ревности, потом еще один. Иногда это завершалось не одной пощечиной, а побоями. И каждый раз – клятвами, что "больше никогда". Конечно, самолюбивая Александра не могла долго выносить такое положение. Как-то раз, увидев на теле матери очередные синяки, Аленка заплакала:

– Мама, зачем ты это терпишь? Выгони ты его, пусть катится в свой Азербайджан.

И ведь не только Александре это сказала. Джафарову тоже. В юности такие вопросы кажутся вполне понятными, а потому решаются сплеча. Теперь Эдуарду очень трудно стало находиться в доме в присутствии падчерицы. Девчонка возненавидела его всей душой и не упускала случая поддеть. А ведь он по-прежнему любил жену, и если б не Аленкины насмешки, может, они бы и сумели как-то договориться. А так... Эдуард все чаще стал засиживаться у приятелей, выпивать, хоть раньше никогда не увлекался спиртным. Иногда, стыдясь ночевать у чужих людей, стелил себе постель в сарае, на сеновале. Знал, что Аленка, увидев его пьяным, не даст спокойно поспать.

А полусонные пьяные мысли все о том же: видится Александра в кругу мужчин. С кем-то танцует, с кем-то заигрывает... Вот ее кто-то развязно обнимает и ведет в спальню... И вовсю гремит въевшаяся в память мелодия: "Ах, какая женщина!".

## "Не доставайся же никому!"

Вечером накануне трагедии Эдуард крепко "принял на грудь". Оно и не диво: третий день не показывался дома, ночевал на сеновале. Уже и не ел ничего, только закусывал.

В зеркало на себя боялся посмотреть. Известно, какая бывает очаровательная внешность после трехдневной пьянки. Однако рано утром, проспавшись, все же решил поговорить с женой. Может, не все еще потеряно? Может, как-то наладим жизнь? А если не захочет мириться, откажется... Ну что ж, Джафаров уже знал, как с ней поступить в таком случае. Только вошел в прихожую, а дочка, оказывается, дома. Аленка критически оглядела отчима: одежда помята, глаза красные, щетина на лице. Из кухни вышла Александра. В ее глазах Эдуард увидел сострадание, и – нет, зрение его не подвело! – она смотрела на него брезгливо, презрительно. Он рванулся обратно к двери.

На самогонной "точке", несмотря на ранний час, Васильевна встретила Джафарова радушно.

Пока Эдуард, опохмелившись, пережевывал нехитрую закуску, бабка философски рассуждала:

– Мне вот и жалко молодых, которые пьют. И не наливала бы вам, а куда деваться? У каждого свое горе. Ты вот какой видный мужик, кажется, жена б должна смотреть на тебя не насмотреться. А Сапька-то — она неизвестно, на кого смотрит. Вот давеча иду с магазина, а она возле клуба с Рудиком стоит...

Жаркая ярость ударила в голову, как шаровая молния. Не дослушав старушечьего монолога, Эдуард швырнул стакан о стену и бросился вон из хаты.

Ноги сами понесли его к электроподстанции. Сейчас Александра пойдет на работу принимать у стрелков смену. Значит, караульное помещение какое-то время будет открыто. А там — 6 карабинов. Они всегда — в полной боевой готовности, уж это Джафаров знал точно. Правда, попасть на территорию подстанции не так уж просто — сигнализация. Но ведь можно и через забор перелезть.

Спрятавшись в кустах неподалеку от ограды, Джафаров видел, как прошла через проходную Александра. Через некоторое время открылись двери "дежурки": она вышла на крыльцо проводить охранников: Сашку Мисюка и... Генку Рудика. Последнему на прощание протянула руку... Улыбается, что-то говорит... Видеть это у Эдуарда больше не было сил.

Мгновенно перемахнув через ограду, он осторожно обошел здание "дежурки". Так и есть, караульное помещение еще не заперто. Когда Александра вошла, то первым, что она увидела, был ствол нацеленного на нее карабина. А уж потом — перекошенное яростью лицо Джафарова с горящими безумными глазами.

Женщина выскочила на территорию подстанции и побежала к воротам. Мисюк и Рудик еще не успели отойти далеко, когда услышали ее крик.

Раздался выстрел. Рудик и Мисюк увидели, как Александра упала возле ограды, словно подкошенная. Джафаров с карабином в руках направился к ней деревянной походкой робота.

— Эдик, ты что, свихнулся?! — что есть мочи заорал Генка. — Что ты делаешь?!

А в "дежурке" в это время надрывался телефон: Аленка, словно чувствуя беду, пыталась дозвониться матери.

Когда Джафаров подошел к лежащей на земле Александре, она была еще жива, но глаза уже наполнялись предсмертной тоской. Женщина чувствовала приближение развязки. А ею могла быть только смерть.

– Не мне, так и никому не достанешься, – глядя в любимые глаза, Джафаров поднял карабин и нажал на курок еще раз.

Не вытирая бегущих по щекам слез, Эдуард снова пошел в "дежурку". Глянул в окно, зачем-то еще раз нажал на курок. Еще один выстрел. Ну, вот и все. Значит, в карабине осталось еще 2 патрона... А жить теперь — зачем, для кого? Сел, прислонившись к стене, вложил дуло карабина в рот. И уже как будто привычно нажал на курок...

**Елена ЧЕКУЛАЕВА.**

ЧАСОВНЯ

# БЕДА ВЕРЫ

Фото: Д.Мякина

2001 год.

***Глядя на изящную часовню на Минском кладбище и не поверишь, что в 1998 году вокруг её строительства развернулись настоящие баталии.***

Тогда в местных газетах появилось гневное письмо горкома КПБ с обращением к муниципальным властям с просьбой приостановить строительство храма возле братской могилы советских воинов. Строительство приостановили.

Приходская община вынуждена была обратиться в общественную приёмную БНФ и газете "Рабочы". Из Минска срочно приехала корреспондент "Рабочага" Ирина Жихар, которая вместе с верующими отправилась на приём к т. Романовскому. На строительной площадке было проведено несколько пикетов. Появились публикации в центральном "Рабочем". Верующие собрали более 20 тысяч подписей в поддержку строительства. Общими усилиями удалось убедить власти продолжить возведение храма...

**Редакция «РБ».**

1998 год. Редактор «Рабочего Бобруйска» Игорь Ходько (справа) доказывает представителю мэрии нужность строящейся часовни.

ГАЗЕТА БЕЗ ЖУРНАЛІСТАЎ

# Са святам нас, любімых!

***Напярэдадні прафесійнага свята – Дня друку – наша газета вырашыла зрабіць своеасаблівую справаздачу перад сваімі чытачамі.***

Становішча любога газетнага дадатку – двухсэнсоўнае і няўдзячнае. Усе дасягненні залічваюцца на рахунак мацярынскага выдання. Усе недахопы кідаюцца ў вочы на фоне больш якаснай газеты.

Таму "дадаістам" – супрацоўнікам дадатку – абавязкова трэба выпрацаваць тую канцэпцыю, якая:

а) аб'ядае сатэліт-дадатак з нябесным целам – асноўнай газетай;

б) выразна акрэсліць розніцу паміж імі.

### Агульнае (пра масавасць)

Чым "Рабочы" В. Івашкевіча і "Рабочы Бабруйска" падобныя? Мы абедзве – масава-палітычныя штотыднёвікі. Нашы каштоўнасці: праца і воля. Гэтыя два паняцці для нас узаемазалежныя. На нашых старонках заўсёды знаходзяць месца тыя аб'яднанні, асобы і праблемы, якія не заўважаюцца ўладай.

Нас цікавіць не толькі сучаснае, але і слаўная мінуўшчына.

Мы разам – бел-чырвона-белыя.

Мы дабіваемся змены разбэшчанага люмпенізаванага натоўпу ў працалюбівае адкрытае грамадства.

Але нягледзячы на падабенствы, ёсць рэчы, якія дазваляюць "Рабочаму Бабруйска" не адчуваць сябе давескам. Гэтакім даведнікам на глебазнаўстве ў дадатак да бестсэлераў Майн Рыда. Копіяй, зробленай на благім ксэраксе. У нас (мы – ужо ў значэнні "Рабочы Бабруйска") ёсць свой мясцовы каларыт.

### Розніца (пра майсавасць)

Майсы – гэта бабруйскія показкі, замалёўкі на пабытовыя тэмы. Ніхто не ўспрымае іх усур'ёз, але ім вераць. Мы – майсавая газета.

Мы – працяг той плёткі, якую вам учора пераказалі на працы. Гэта нам не выплочваюць своечасова заробкі. Гэта мы чырванеем ад сораму на матчах "Белшыны". Гэта мы праводзілі цёцю Сіму, калі яна ад'язджала ў міфічны Ізраіль. Мы ж яе і сустрэнем, калі яна раптам захоча вярнуцца. Мы стаім у чэргах. І вядзем дзяцей у садок. А ўвечары забіраем іх і распавядаем смачную казку. Пра тое, які цікавы наш горад.

### Зборная Фарэрскіх выспаў (пра рэдакцыю)

Калектыў "РБ" – своеасаблівая зборная Фарэрскіх выспаў па футболе. Тая складаецца з цырульнікаў, настаўнікаў, лекараў. Ніводнага футбаліста. І тым не менш Фарэры ствараюць значныя праблемы больш моцным і фанабэрыстым супернікам.

Сярод журналістаў "РБ" таксама ёсць усе – выхавацелькі і лекары, школьнікі і рабочыя... За выключэннем хіба што прафесійных журналістаў. Каманда сабралася пакрысе. Пачалося ўсё з Ігара Ходзькі, сённяшняга рэдактара, які паўтары гады назад ім яшчэ і не быў. Менавіта яму давялося ганяць мяч з лідэрам бабруйскага "трэцяга сектару" Алесем Чыгіром. Стоячы побач у футбольнай сценцы, яны прыдумалі газету. За іх пачалі чапляцца не абыякавыя да праблем горада людзі. Заканамерна ў сваёй выпадковасці. Чалавек за чалавекам. На гэты конт – самаробнае евангелле ад "Рабочага Бабруйска".

Спачатку быў Ігар Ходзька.

І "Рабочы" быў у Ходзькі.

І "Рабочым" быў Ходзька.

І ўсё праз яго зрабілася.

І нічога без яго не пачало быць, што пачало быць.

І нарадзіў Рэдактар Алеся Чыгіра.

А Алесь нарадзіў Дану, жонку сваю, і Алісу, дачку сваю (так, заадно ўжо).

І нарадзіў Рэдактар Віктара Качана, грамадскага і спартовага.

А той – Надзею Кокаш.

А Надзея – Людмілу Кокаш, хаця ў рэчаіснасці наадварот...

Так узнікла рэдакцыя, вельмі падобная да зборнай Фарэрскіх выспаў па футболе.

Мы чакаем новых цырульнікаў.

### Статыстыка.

- Колькасць нумароў на 5 траўня – 58.
- Дата выхаду першага нумара – лістапад 1999 года.
- Колькасць людзей, чые артыкулы друкаваліся ў газеце – 30 чалавек.
- Колькасць палос – 196.
- Колькасць артыкулаў – прыкладна 1400.
- Склад рэдакцыі на сённяшні дзень – 14 чалавек:
  - настаўнік – 2;
  - гісторык – 1;
  - выхавацелька – 1;
  - тэхнолаг лёгкай прамысловасці – 1;
  - тэхнолаг грамадскага харчавання – 1 (рэдактар – ён жа);
  - электрык – 1;
  - школьнік – 1;
  - студэнт-медык – 1;
  - філосаф – 1;
  - лекар – 1;
  - правізар – 1;
  - хакер – 1;
  - дэтэктыўшчыца – 1.
- Лідэры па колькасці артыкулаў – Людміла Родзікава, Алена Чэкулаева, Віктар Качан.
- Колькасць затрыманняў праваахоўчымі органамі – 10 (пакуль).
- Запрашэнні ў пракуратуру – 3.
- Па матэрыялах газеты ўзбуджаны 2 крымінальныя справы і 2 пракурорскія праверкі. Па адной з крымінальных спраў службовай асобе прыйшлося выплаціць штраф у памеры 18 тыс. рублёў.
- Хоць раз чыталі газету – 61,5%.
- Рэгулярна чытаюць газету – 50% гарвыканкаму, 50% упраўлення ўнутраных спраў і іншыя свядомыя грамадзяне.

**Справаздачу падрыхтавалі Дзмітрый ДОЎГАЛЬ і Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

*P.S. Наша рэдакцыя віншуе ўсіх калегаў з гарадскіх выданняў са святам. Зычым грошаў, вострых пер'яў і канкурэнцыі.*

Рабочы Бабруйска

ВАНДРОЎКА

# Бабруйчанін у Кіеве

*(Заканчэнне, пачатак у №№ 54,55)*

### "Дынама"

Сведка шматлікіх перамог мясцовай каманды, ён горда ўзвышаецца ў цэнтры горада, з'яўляючыся сапраўдным сімвалам спартыўных дасягненняў Украіны.

Так атрымалася, што я трапіў на стадыён на наступны дзень пасля суперматча чэмпіянату Украіны. Данецкі "Шахцер" перамог мясцовае "Дынама" 2-1. Адчуванне таго, што тут зусім нядаўна адбывалася нешта драматычнае, ахоплівае ўжо на дальніх подступах да арэны. Гандляры з крамаў і бараў абмяркоўваюць учарашнюю падзею. Здаецца, што краіна падзялілася на дзве часткі: кіяўляне і правінцыя. Тэматыка ўсіх гутарак адна—футбол. У крамах каля стадыёна нельга знайсці піва. Яго яшчэ не завезлі пасля ўчарашняга свята.

На самой арэне ўражваюць дзве вядучыя да трыбунаў лесвіцы. Яны такія вялікія, што пры жаданні на любую з іх можна было б усадзіць усю бабруйскую тарсіду разам з камандамі, суддзямі і АМАПам.

Адразу ўзгадваецца родны бабруйскі стадыён... Складваецца ўражанне, што працяй узвесці піраміду Хеопса, чым усталяваць пару тысяч пластыкавых месцаў. Так будавалі, як робіць гэта ў нас, не могуць больш нідзе.

### Ад'езд

Доўга шукаем неабходны пуць... Заўзята скачам праз нагрувашчванне бетону і цэглы да цягніка...

Бачым за шыбай адплываючы горад...

Нежын, Чарнігаў, мытнікі, Гомель, Жлобін...

Прыехалі...

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

БОЛЬ

# ХОЛОКОСТ глазами детей

***19 апреля отмечается международной общественностью как Всемирный день Холокоста.***

"Холокост" в переводе с греческого означает "всесожжение". В огне расовой ненависти в годы Второй мировой войны было физически уничтожено шесть миллионов евреев.

Приуроченная к этому дню, стараниями Бобруйской городской еврейской общины и Республиканской ассоциации узников гетто была открыта международная выставка молодых художников и детей "Холокост глазами художника".

Экспозиция представлена произведениями юных художников (до 18 лет) из всех уголков Беларуси, в том числе и Бобруйска.

Пережитая сердцем боль отражена на картинах, и от этого она становится сильнее, заставляя задуматься, во имя чего приносятся в жертву судьбы народов.

***Выставка открыта для посетителей с 10:00 до 16:00, телефон для справок 2-11-71.***

Бобруйская еврейская община, в помещении которой разместилась выставка, находится по адресу: ул. Чонгарская (белый трёхэтажный кирпичный дом рядом с Домом офицеров и пунктом охраны порядка).

**Надежда КОКОШ.**

ПАДЗЕІ

# Шоў Беларушчыны

21 красавіка ў сярэдняй школе № 8 адбылося дзіўнае для Бабруйска мерапрыемства пад назвай "Шоў Беларушчыны". "Шоў Беларушчыны" – гэта віктарына, пытанні якой ахопліваюць амаль усе галіны ведаў, што тычацца нашай Бацькаўшчыны. Праводзілі мерапрыемства дыджэі Адраджэння з мовазнаўчай дэмакратычнай арганізацыі горада – Алёна і Харытон. Усе пераможцы атрымалі падарункі ў выглядзе відэа, аудыё і друкаванай беларускамоўнай прадукцыі.

**Алена АНДРЭЕВА.**

# Круглы стол

У рамках беларуска-шведскага праекта "Умацаванне беларускіх няўрадавых арганізацый" у Бабруйску прайшоў круглы стол "Жаночая тэма на старонках бабруйскіх газет". На яго былі запрошаны жанчыны-лідэры грамадскіх арганізацый горада і журналісты мясцовых газет.

Падчас дыскусіі гаварылася аб тым, што аднабаковая тэматыка СМІ, якая замацоўвае за жанчынамі іх традыцыйныя ролі, тармозіць прагрэс жанчын. Памяняць уяўленне аб ролях палоў у грамадстве і тым самым адкрыць больш магчымасцяў для жанчын без удзелу СМІ не магчыма.

**К. ПРУТКОВА.**

# Літаратурныя чытанні

25 красавіка бабруйская філія Маладога фронту правяла чарговыя «Літаратурныя чытанні». У скверы ля кінатэатра «Таварыш» сабралося з дзесятак маладых хлопцаў ды дзяўчат, якія рушылі ў бок драматычнага тэатра. Сабраліся яны з мэтаю нагадаць жыхарам роднага горада, што сучасная моладзь цэніць літаратурную спадчыну сваёй зямлі і ніколі не адрачэцца ад яе.

Ля помніка В. Дуніна-Марцінкевіча гучна чыталіся вершы Купалы, Коласа, Багдановіча... З зацікаўленымі мінакамі абмяркоўваліся праблемы сучаснага стану беларускай літаратуры і яе будучыні. Адзначым, што гэта ўжо трэцяя культурніцкая акцыя МФ за апошні месяц.

**Валеры МАЦКЕВІЧ.**

ВІНШУЕМ

# Поспехаў, Оля!

Вучаніца 10 "А" класа гімназіі № 1 Ольга Панасенка атрымала імянную стыпендыю Беларускага фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы – дзецям". Улічвалася шмат чаго: і паспяховасць у школе ледзь не за ўсе гады вучобы, удзел у алімпіядах, а таксама актыўнасць у жыцці гімназіі.

Ольга некалькі гадоў запар перамагае ў гарадскіх алімпіядах па беларускай і англійскай мовах і даволі паспяхова ўдзельнічае ў абласных алімпіядах.

*– Для мяне самой гэта было прыемнай нечаканасцю.–* кажа Оля *– Дыплом і стыпендыю мне ўручыла Лідзія Сямёнаўна Багданава, старшыня апякунскай рады фонду "Мы – дзецям" у Бабруйску, на навукова-практычнай канферэнцыі, якая праходзіла ў нас у гімназіі. Я сама не брала ўдзел у гэтай канферэнцыі, але мне патэлефанавалі са школы і сказалі, каб абавязкова прысутнічала, бо для мяне будзе прыемная навіна.*

Сапраўды, гэта вельмі прыемна, калі ты нешта зарабіў сам, сваім розумам. Для даведкі. Такіх імянных стыпендый фонду "Мы – дзецям" усяго 3 на рэспубліку.

**Л.РОДЗІКАВА.**

Напоминаем, что вы имеете возможность опубликовать в нашей газете частное объявление АБСОЛЮТНО БЕСПЛАТНО!

ЖАРТ

## Правер свае веды

**Віктарына-тэст "Ці ведаем мы сваю гісторыю?"**

*Якое імя насіла Еўфрасіння Полацкая да пострыгу?*
1. Васіліса
2. Мальвіна
3. Прадслава
4. Земфіра
5. Фіярэнціна

*Хто заснаваў Вялікае княства Літоўскае (ВКЛ)?*
1. Пётр І
2. Вячорка
3. Міндоўг
4. Макбет
5. Цар Гарох

*Як называлася славутая паэма Міколы Гусоўскага?*
1. "Мой ласкавы і пяшчотны звер"
2. "След ваўкалака"
3. "Песня пра зубра"
4. "Апошні з магікан"
5. "Пакемон"

*Якая мова ў ВКЛ мела статус дзяржаўнай?*
1. Літоўская
2. Руская
3. Ідыш
4. Эсперанта
5. Беларуская

*Каму належаць словы: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"*
1. М. Мураўёў
2. Зянон Пазьняк
3. Тарас Бульба
4. Аляксандр Лукашэнка
5. Францішак Багушэвіч

Тэсціраваў Віктар КАЧАН.

Шаноўная «Крынічка бабруйская»!
З нагоды з'яўлення ў свет 50-га нумара шчыра віншуем Цябе!
Жадаем пабачыць, як «Крынічка» ператворыцца ў «Рэчку», «Мора», «Акіян», але застанецца такой жа чыстай і спатольваючай смагу.
**Вашыя калегі з «Рабочага Бабруйска».**

СОВЕТЫ ОТДЫХАЮЩИМ

## ... на море

Крым. По горной дороге едет автобус с отдыхающими. Экскурсовод, рассказывая о местных достопримечательностях, просит посмотреть туристов то налево, то направо. Проезжая мимо высокой скалы, он обращает внимание на находящиеся там фигурки людей и объясняет, что здесь проводятся тренировки по скалолазанию. Вдруг у всех на глазах один человек срывается и с огромной высоты, ударясь на лету о выступы скал, падает вниз в находящиеся у подножья кусты, совсем недалеко от автобуса.

Страшное зрелище, все в шоке. Автобус останавливается, люди выскакивают и бегут к кустам на помощь. Не успевают они добежать, как оттуда к ним навстречу выходит человек в обвязке, каске, увешанный карабинами. Отряхивается и матерится: «Фу, блин, невезуха , пятый раз сегодня срываюсь.» Само собой, что все это устраивается «веселыми» скалолазами для развлечения туристов и самих себя. Главное в этом розыгрыше – вовремя ретироваться «пострадавшему», пока у отдыхающих еще не прошел шок, а то можно и действительно сильно пострадать.

## ... и на даче

Подойдет тем, у кого есть своя душевая (бачок с краником, который на дворе стоит и от солнца греется). Так вот, если приобрести ФЕНОЛФТАЛЕИН (в школе навалом, так как это индикатор на кислотные и щелочные среды) и налить его в этот бачок, то вода приобретет малиновый цвет, но ТОЛЬКО при контакте с мылом (поскольку щелочь). До этого же она (вода в бачке) будет оставаться такой же прозрачной, как и была. А самое главное, что прикол для здоровья абсолютно БЕЗВРЕДЕН! Удачи.

P.S. Если фенолфталеин в сухом виде, то он в воде не растворяется, для получения жидкости его следует разводить в спирте (спиртовом растворе).

АНЕКДОТ

На советской подводной лодке просыпается злой, мучимый тяжелым похмельем капитан:

– Штурмана ко мне!

Появляется штурман в аналогичном состоянии.

– А-а, наконец-то! Где мы находимся, штурман?

Штурман:

– Не могу знать, неделю назад были в Средиземном, погрузили в Неаполе полсотни ящиков водки, а теперь хрен его знает, товарищ капитан!

– Поднять перископ!

Штурман с трудом выполняет требуемое:

– 40 градусов с левого борта – вижу торговое судно!

– Две торпеды.

– Торпеды вышли, капитан.

– Примем SOS, запиши координаты, но чтоб это в последний раз.

## Бесплатные частные объявления



Общественная инициатива "Независимый взгляд" в Бобруйске предлагает всем, кому не безразлично будущее Беларуси, участвовать в создании объективного наблюдения за подготовкой и ходом выборов.
*Тел. для справок: 7-75-60 (Игорь).*

### Падзякі, віншаванні.

Быстрых Виталий Николаевич.
Поздравляем с днём рождения. Желаем много счастья, любви и здоровья. Пусть все твои мечты сбудутся.
Мете К, Гуффи и его друзья.

Віншуем Аню Желтышэву з Днём народзінаў. Добрага настрою і ўсяго найлепшага.
Сябры.

Бабруйская гарадская арганізацыя Маладога Фронту і яе сакратарка Алена Андрэева ў прыватнасці выказвае падзяку ксяндзу Аляксандру за тое, што 26 красавіка ён адслужыў набажэнства па ахвярах Чарнобыля. Дзякуй Вам, святы Айцец.

Спадарства з "Фартуны"! Зачыняйцеся ў адзначаны на дзвярах тэрмін!
Вашы былыя прыхільнікі.

Ганначка Жэлтышэва! Кветачка! Віншую цябе з тваімі народзінамі. Будзь смелая, добрая, такая ж прыгожая, добразычлівая. Не паўтарай маіх памылак. Я цябе наўпрост люблю.
Леся.

Жадаю пазнаёміцца з прыемнымі дзяўчынкамі. 7-78-18 (Дзяніс).

Набуду шасціструнную гітару ў добрым стане, пядорага.
Тэл. 2-18-55 (З $10^{00}$ да $18^{00}$, спытаць Яўгена).

Бараніце мову продкаў!
Уступайце ў ТБМ!
Тэлефон у Бабруйску: 7-61-68





**Дапамога ў самаадукацыі для моладзі.**

*Гісторыя Беларусі; Паліталогія; Экалогія; Асновы журналістыкі; Беларускі погляд на свет.*

*Даведкі па тэлефоне 257-18 (увечары) Алесь ці Дана;*



*Ці па адрэсе: вул. Мінская, д. 63, кв. 16. Аўторак і пятніца з 11 да 17 гадзін.*

ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР
**"ВЯСНА"**
ПРАЦЯГВАЕ СВАЮ СПРАВУ
па іншай адрэсе: вул. Мінская 63 кв. 16 (за «пажаркой»). Прыём кожны аўторак і кожную пятніцу з 11.00 да 17.00. Юрыдычная, маральная падтрымка! Тэлефон для даведак: 7-37-68.
*Калі ласка, тэлефануйце толькі ў адзначаны час.*

Бобруйская объединенная организация общественного объединения "РЕСПУБЛИКАНСКОЙ АССОЦИАЦИИ ИНВАЛИДОВ-КОЛЯСОЧНИКОВ" *оказывает юридическую, психологическую, моральную и материальную помощь* людям, прикованным к постели. Организации и юридических лиц просим принять участие в оказании помощи людям, передвигающимся на колясках, прикованным к постели.
Контактные телефоны: 7-91-49; 2-09-50; 2-82-36.



ОКАЗЫВАЕМ БЕСПЛАТНУЮ ЮРИДИЧЕСКУЮ И МОРАЛЬНУЮ ПОМОЩЬ ГРАЖДАНАМ, ПРОФСОЮЗАМ, ОБЩЕСТВЕННЫМ И ИНЫМ ОРГАНИЗАЦИЯМ.
Бобруйский региональный Информационно-правовой центр
тел: 55-81-78

## Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ____________
Адрес (телефон) (*не для печати*) ____________
Текст объявления: ____________

**Вырезать, заполнить, послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 25.**